*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

№453 • Красавік 1998 г.
Год выд. 48

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## 80 ГАДОЎ ТАМУ

**Рэфэрат, прачытаны 29 сакавіка на ўрачыстай акадэміі ў Нью Брансўіку.**

Друкуецца скарочана

Ідэя беларускай дзяржаўнасьці была, вядома, ня новая. Яна, у пэўнай форме, існавала падчас Полацкага Княства, яна бліскуча выяўлялася ў стварэньні Вялікага Княства Літоўскага, Статут якога быў напісаны па-беларуску й да гэтага часу зьяўляецца эталёнам канстытуцыйнага права.

Ідэя вольнай Беларусі на пачатку нашага стагодзьдзя абмяркоўвалася на старонках «Нашай нівы», знайшла ўвасабленьне ў творах Купалы, Багдановіча, Коласа. У палітычным кантэксьце пра стварэньне беларускай дзяржавы было заяўлена ў 1917 годзе на Першым Усебеларускім Зьезьдзе. Потым быў так званы Берасьцейскі мір, заключаны бальшавікамі з кайзэраўскай Нямеччынай за плячыма Беларусі й, адпаведна, бяз уліку жыцьцёвых інтарэсаў беларускага народу.

9 сакавіка 1918 года Выканкамам Рады Ўсебеларускага зьезьду прымаецца Другая Ўстаўная Грамата, і Беларусь абвяшчаецца дэмакратычнай рэспублікай. Прынятая 25 сакавіка 1918 году Трэцяя Ўстаўная Грамата скасавала ўсе дзяржаўныя сувязі з Расеяй і юрыдычна абвесьціла незалежнасьць Беларусі. Ля вытокаў стварэньня БНР стаялі Васіль Захарка, Кастусь Езавітаў, Алесь Бурбіс, Язэп Варонка, Пётра Крэчэўскі, Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Аркадзь Смоліч, Іван Серада.

Гэтыя ды іншыя асобы заклалі моцны падмурак беларускай дзяржаўнасьці. Нажаль, узьвесьці на ім беларускі дом аказалася надзвычайна складана. Будаўніцтву гэтага дому адразу-ж пачалі перашкаджаць варожыя да Беларусі сілы як з Усходу, так і з Захаду. Трагічны зьбег абставінаў паспрыяў таму, што, у адрозьненьне ад Летувы ці Латвіі, Беларусь ня мела нават дванццаці гадоў для жыцьця ва ўмовах незалежнасьці й свабоды. Бязумоўна, калі-б такая магчымасьць у беларусаў была — лёс нацыі склаўся-б інакш, і гэты 80-гадовы юбілей мы-б з вамі адзначалі ня тут, а ў Менску, іншых гарадох і мясьцінах квітнеючай Беларусі.

Пасьля 1919 году ідэю беларускай дзяржаўнасьці ўвасабляла Рада Бела-

(Працяг на с. 6)



*С. Навумчык у часе адчытаньня рэфэрату.*

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

Любасныя ў Госпаду пастыры,
шаноўнае манаства й усе багалюбныя вернікі сьвятой Беларусі!

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

*«Якая карысьць чалавеку,*
*калі прадбае цэлы сьвет,*
*а душу сваю загубіць» (Мк. 8:36)*

Дарагія й любасныя мае Браты й Сёстры!

У вялікодную нядзелю на золаку царкоўныя званы абвяшчаюць цэламу сьвету вялікі цуд: Хрыстос уваскрос! І вестка, што Хрыстос сапраўды ўваскрос напаўняе нашыя сэрцы ўздымам да жыцьця. Ці ёсьць іншыя словы, каб былі гэтак блізкія й пацяшаючыя для нас? І ці ёсьць часіна ў годзе, каб можна было мець такую меру спадзяваньня на вечнае жыцьцё, як на Вялікдзень — у падзеі крыжовай сьмерці й уваскрасеньня зь мёртвых Госпада й Ратаўніка нашага Ісуса Хрыста? Бо-ж сёньня мы прамаўляем словамі малітвы: «Ты, Госпадзе, што на крыжы пакутаваў і сьмерць зьнішчыў і ўваскрос зь мёртвых, супакой нашае жыцьцё, бо Ты — адзіны Ўсемагутны (*вялікодная сьціхіра на «Хваліце»*). Госпад Бог наш Ісус Хрыстос у сёньняшні дзень зазьзяў усім нам вялікім сьвятлом — на трэці дзень пасьля таго, як Яго пахавалі, устаў зь мёртвых. Хрыстос уваскрос! Канчатковая перамога Ісуса Хрыста над сьмерцяй, дарагія мае, дае й нам усім веру ў перамогу. Госпад кажа: «Я ёсьць уваскрасеньне й жыцьцё» (Ян 11:25). Мы радасна ўсклікаем разам зь Янам Залатавусным: «Сьмерць! Дзе тваё джала? Пекла! Дзе твая перамога? Хрыстос Уваскрос, і палі чэрці! Хрыстос Уваскрос, і цешацца анёлы! Хрыстос уваскрос, і памерлых няма ў магіле! Хрыстос Уваскрос з памерлых і стаўся Першым для ўсіх памерлых» (Вялікоднае слова Яна Залатавуснага).

Уваскросьлы Хрыстос дае нам моц прадаўжаць жыцьцё і дае запэўненьне, што сьмерць — не апошняе слова. Госпад хадзіў паміж народам — кніжнікамі, фарысеямі й звычайнымі людзьмі — як Чалавек. А сёньня мы бачым сілу славы ў Ягоным уваскрасеньні. І добра ведаць значэньне гэтай падзеі. Гэта сіла самаісныаваньня, сіла тварэньня, сіла вытрываласьці, сіла перамогі, сіла веры. «Гэтая перамога, што перамагла сьвет, — кажа дабравесьнік Ян, — гэта вера наша» (1Ян 5:4). Сёньня, сьвяткуючы ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, умацаваныя ў веры нашай, мы жывём у часе працэсу ўваскрасеньня нашай Сьвятой Беларусі. І сёньня ўсім нам трэба быць асабліва зьяднанымі ды мець моцную веру ў Бога, вялікую сілу вытрываласьці ў змаганьні з акаянным, каб нашая сьвятая Беларусь уваскросла й сапраўды сталася свабоднай, незалежнай краінай.

Сьвяты апостал Павал у сваім лісьце да Карынцянаў кажа: «Дык вось, ачысьціце старую закісь, каб сталі вы новым цестам, бо вы прэсныя, бо Пасха наша, Хрыстос, ахвяраваны за нас. А таму будзем сьвяткаваць не са старой закісяй, ня з закісяй зла й подступу, а з праснакамі чысьціні й праўды (1Кар. 5:7—8). Гэтым сьвяты апостал кажа нам, каб мы аднавіліся да новага жыцьця ў духу словаў Госпада нашага Ратаўніка Ісуса Хрыста.

«Мір вам» — абвяшчае Хрыстос апосталам, увайшоўшы праз «зачыненыя дзьверы» й паказваючы раны на руках і рэбрах ад цьвікоў. А вучні ўсьцешыліся, як пабачылі Госпада, і зноў пачулі: «Мір вам! Як Мяне паслаў Айцец, і Я пасылаю вас» (Ян 20:21).

Дарагія мае, служыць Богу — гэта й ёсьць служыць свайму народу. А каб належна служыць свайму народу, трэба любіць свой народ, сваю родную мову беларускую, ведаць сваю гісторыю, сваю культуру, трэба мець непахісную й моцную веру ў Бога й верыць свайму народу. Але аднымі словамі мы ня можам выявіць веру, як сьв. апостал Якуб кажа: «Вера, калі ня мае ўчынкаў, мёртвая сама ў сабе» (Як. 2:17). Не пакідайце й не ўцякайце ад Праваслаўнай Царквы, а будзьце вытрывалымі, настойлівымі ў сваіх дабрародных намаганьнях, каб Царква была свая, беларуская й служыла свайму беларускаму народу.

Аднак наша радасьць гэтага сьветлага дня ўваскрасеньня Хрыстовага ня будзе поўная й дасканалая, калі яна ня будзе мець за сабою падтрымкі ў кожнага з нас узаемнай любові й шчырага братэрства. І няхай ня будзе паміж намі нічога таго, што разлучала-б нас, бо мы — адзін беларускі народ.

Любасныя мае! Якое вялікае дабро й шчасьце ў тым, што Бог удастоіў нас быць беларусамі й быць дзецьмі Ягонае Хрыстовае Царквы, у якой мы становімся такімі блізкімі Ўваскрэсламу Госпаду, дзе мы здабываем ратунак у смутку й паўнату ў Сьвятым Духу.

Няхай-ж кожны з нас, зь вераю й у поўным пераканаьні належна й неспаслабна, добраахвотна ўжо дзейнічае, каб споўніліся нашыя высакародныя надзеі, і хай на Вялікодных багаслужбах усе вернікі з удзячнасьцю Богу ўслаўляць уваскрослага Госпада нашага Ісуса Хрыста сваёй роднай мовай: «Уваскрасеньня дзень, і прасьвяцімся ўрачыстым сьвятам і адзін аднаго абдымем. Скажам, браты, і тым, што ненавідзяць нас, выбачым усё дзеля ўваскрасеньня, і гэтак засьпяваем: Хрыстос уваскрос зь мёртвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, што ў магілах, жыцьцё падарыў».

Усіх Вас, дарагія мае, слаўныя й мілыя Суродзічы, вітаю: ХРЫСТОС УВАСКРОС!

ХРЫСТОС УВАСКРОС — САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Вялікдзень 1998 году

**архіяпіскап Мікалай**

## САМЫ БЕДНЫ Ў БЕЛАРУСІ

Менавіта такім старасцца паўстаць перад вачыма легкавернага электарату А. Лукашэнка, настойліва падкрэсліваючы ў сваіх публічных выступах, што нічога ня мае: і «Мэрсэдэсы» не ягоныя, і параплаў з самалётам ды верталётам, і шыкоўныя кватэры ды дамы — усё дзяржаўнае. Праўда, апошнім часам Лукашэнка пакінуў скардзіцца на беднасьць. Ці не таму, што Аляксандар Пупейка — беларускі бізнэсовец, які ўцёк ад «бацькавае» ласкі ў Польшчу — заявіў наступнае: **«Асабісты фонд прэзыдэнта складае 500 000 000 даляраў».**

## ПАЛОХАЮЦЦА «ПАГОНІ»

Напярэдадні Сакавіковых Сьвяткаваньняў стараньнямі Старшыні Нью Ёрскага Аддзелу БАЗА Марата Клакоцкага былі аддрукаваныя канвэрты з выяваю Пагоні й бел-чырвона-белага сьцягу з ангельмоўным надпісам у гонар 80-х угодкаў БНР.

Цяпер мы атрымалі інфармацыю, што лісты ў Беларусь, якія былі ўкладзеныя ў сьвяточныя канвэрты, не дайшлі да адрасатаў. Лукашысты ад пошты баяцца нават адной толькі выявы беларускіх нацыянальных сымбаляў і нішчаць усё, што нясе гэтыя сымбалі.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# БЭЛЬГІЙЦЫ ПАДТРЫМВАЮЦЬ ПРАТЭСТ СУПРАЦЬ ЛУКАШЭНКІ

3 сакавіка сёлета па ініцыятыве IFIAS (Institute for International Assistance and Security) быў зарганізаваны пікет перад беларускім пасольствам у Бруксэлі (Бэльгія). Мэтай пікету было запратэставаць супраць антыгуманнага асуджэньня маладых беларускіх хлопцаў, якія змагаюцца супраць таталітарызму, за незалежнасьць Беларусі.

Ад пасольства быў дэлегаваны прадстаўнік, які з загадзя падрыхтаванай пісьмовай дэклярацыі прачытаў, што нас уводзяць аблуду, што ў Беларусі ўсё нармальна, што хлопцаў засудзілі зусім не за надпісы на мурох дамоў, а за хуліганства, за абразу гістарычных помнікаў і нацыянальнага сьцягу (маецца на ўвазе БССРаўска-лукашэнкаўскі). Тут ён таксама зазначыў, што паводле расейскага тэлебачаньня ў Беларусі ствараецца збройная арганізацыя для ліквідацыі Лукашэнкі.

Пры пікеце прэзыдэнт IFIAS сп. Гройнэ (Greune) перадаў прадстаўніку пасольства вялікую колькасьць подпісаў-пратэстаў бэльгійцаў і беларусаў, якія жывуць у Бэльгіі.

Па абедзе гэтага-ж дня ў Эўрапарлямэнце адбылося паседжаньне па справах парушэньня правоў чалавека. Тут прысутнічалі запрошаныя госьці зь Беларусі сп. Г. Грушавы, дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь 13-га скліканьня, і сп. У. Роўда, Прэзыдэнт Згуртаваньня Недзяржаўных Арганізацыяў у Беларусі, якія распавялі пра драматычнае становішча на Беларусі.

4 сакавіка адбылося паседжаньне ў Эўрапарлямэнце, прысьвечанае выключна сытуацыі з правамі чалавека на Беларусі. Трэба зазначыць, што паміж прысутнымі быў таксама прадстаўнік беларускага пасольства, які ўзяў слова на самым канцы паседжаньня. Ён у большасьці паўтарыў сказанае яголым папярэднікам да ўдзельнікаў пікету, праўда, вытлумачыўшы, што «абражаныя гістарычныя помнікі» былі статуямі Леніна й Дзяржынскага. Гэтае ўдакладненьне шмат хто з прысутных успрыняў зь вялікім зьдзіўленьнем.

**Янка Жучка**

# АВАРЫЯ МАГЛА-Б НЯ СТАЦЬ КАТАСТРОФАЮ

*12 год таму выбухнуў Чанобыль. Катастрофа пазбавіла жыцьця дзясяткі людзей, адняла здароўе ў соцень тысячаў, атруціла вялізныя абшары Беларусі ды Ўкраіны. Чарнобыль баліць нам і будзе балець яшчэ стагодзьдзі. Былы кіяўлянін, а сёньня жыхар Брукліна, Арнольд Левін даслаў у рэдакцыю ліст, у якім раскрывае некаторыя дэталі перадгісторыі Чарнобыльскай трагедыі.*

У 70-я гады я працаваў ва Ўкраінскім Навукова-Дасьледчым Гідрамэтэаралягічным Інстытуце. Усьведамляючы небясьпеку, зьвязаную з будаўніцтвам атамных электрастанцыяў, я зьвярнуўся ў Міністэрства Энэргетыкі Украінскай ССР, у аддзел атамных станцыяў, з прапановаю пачаць працу дзеля папярэджаньня наступстваў аварыяў на атамных станцыях.

У Міністэрстве Энэргетыкі мяне падтрымалі й падрыхтавалі ліст ва Ўкраінскі Гідрамэтэаралягічны Інстытут, каб гэтая ўстанова занялася распрацоўкаю прэвэнтыўных мераў на выпадак аварыяў на атамных станцыях, у тым ліку й на Чарнобыльскай электрастанцыі.

Даведаўшыся пра падрыхтаваны ліст, я папярэдзіў кіраўніцтва аддзела атамных станцыяў Міністэрства Энэргетыкі УССР, што недастаткова накіраваць гэты ліст толькі ў Гідрамэтэаралягічны Інстытут, бо начальства гэтага інстытуту будзе рабіць усё магчымае, каб не займацца гэтай праблемай. Прычына вельмі простая: у інстытуце ня схочуць брацца за распрацоўку такой складай на і, што самае галоўнае, такой адказнай тэмы.

Таму я параіў кіраўніцтву аддзела атамных станцыяў даслаць такі-ж ліст у Маскву, у Галоўную Ўправу Гідрамэтэаслужбы СССР. Са мною згадзіліся.

Аднак начальства Гідрамэтэаралягічнага Інстытуту ніяк не зрэагавала на ліст зь Міністэрства Энэргетыкі.

У 1974 ці 1975 годзе пытаньне распрацоўкі прэвэнтыўных мераў на выпадак аварыі зноў узьнімалася ва Ўкраінскай Радзе Аховы Навакольнага Асяродзьдзя, але вынік быў той-жа: Рада вырашыла, што распрацоўка тэмы — не яе справа.

**Чарнобыльскі выбух 26 красавіка 1986 году мог-б неператварыцца ў трагедыю для мільёнаў людзей, каб не злачынная няробства савецкіх чыноўнікаў ад навукі.**

# КАНФЭРЭНЦЫІ

На працягу двух дзён, 16 і 17 красавіка, у Будапэшце пад эгідаю Фонду Ласло Тэлекі праходзіла канфэрэнцыя «Гісторыя й інтэграцыя».

Вугоршчына сталася пасярэднікам у дыялёгу навукоўцаў розных краін сьвету, якія сабраліся абмеркаваць інтэграцыйныя працэсы ў Эўропе. У гэтым кантэксьце разглядаліся стасункі й паміж спрадвечнымі суседзямі — Польшчай, Беларусьсю, Украінай і Летувой.

Беларусь на канфэрэнцыі рэпрэзэнтаваў доктар гісторыі Анатоль Грыцкевіч, які выступіў з дакладам «Беларусь і краіны Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы. Працэсы дэінтэграцыі». У дакладзе асьвятляліся сучасныя аб'ектыўныя варункі існаваньня беларускае дзяржаўнасьці.

На канфэрэнцыі панавала атмасфэра даверу, што спрыяла адкрытаму дыялёгу навукоўцаў. Пацьверджаньнем гэтаму — выступ доктара гісторыі Ганны Длягавай пра цяжкасьць пераадоленьня ў псыхалёгіі польскага абывателя стэрэатыпу ўспрыняцьця беларускіх, украінскіх і летувіскіх земляў як часткі польскай тэрыторыі. Прагучала, што касаваньне такіх стэрэатыпаў — адно з найважнейшых заданьняў польскіх гісторыкаў.

Варта дадаць, што арганізатарам такой прадстаўнічай сустрэчы навукоўцаў стаў Цэнтральнаэўрапейскі Інстытут, які дзеіць у Вугоршчыне блізу 80 год.

**Валянціна Мароз**

* * *

З 16 да 19 красавіка ў Нью Ёрку адбывалася 3-я штогадовая канфэрэнцыя Асацыяцыі Досьледаў Нацыянальнасьцяў (Association for the Study of Nationality), якая дзейнічае пры Інстытуце імя Гэрымана (Harriman Institute), Калюмбійскі Ўнівэрсытэт. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ад самага пачатку зьяўляецца сябрам гэтай асацыяцыі.

Беларуская тэматыка на канфэрэнцыі была рэпрэзэнтаваная спавешчаньнямі Якуба Зэйліса (Джорджтаўнскі Ўнівэрсытэт) «Заходнія беларусы», Алены Гапавай (Эўрапейскі Гуманітарны Ўнівэрсытэт, Беларусь) «Жанчыны — нацыянальная сьведамасьць — грамадзянства ў посткамуністычным кантэксьце), Аляксандры Гужон (Сарбонскі Ўнівэрсытэт, Францыя) «Нацыянальная самасьведамасьць беларусаў у сучаснасьці», Уладзімера Снапкоўскага (Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт).

* * *

У папярэднім нумары (№452) мы ўжо паведамлялі пра міжнародную канфэрэнцыю «Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў XX стагодзьдзі», якая прайшла сёлета 27–28 лютага ў Менску.

Удзельнікі канфэрэнцыі прынялі дакумэнты — рэзалюцыю й дзьве заявы. У рэзалюцыі ў прыватнасьці гаворыцца: «Масавыя рэпрэсіі 20–50-х гадоў прывялі народ Беларусі да дэмаграфічнай, духоўнай і маральнай катастрофы. [...] Увядзеньне прэзыдэнцкай формы кіраваньня стала пачаткам узнаўленьня некаторых таталітарных структураў.

«Апошнім часам у грамадзкую сьвядамасьць укараняецца думка, што рэпрэсіі савецкага пэрыяду былі гістарычна непазьбежнымі. Аднак нішто ня можа служыць апраўданьнем для забойства».

У «Заяве аб Курапатах» зазначаецца: «Дзяржаўныя органы Беларусі ня толькі не садзейнічаюць выяўленьню месцаў масавага зьнішчэньня людзей падчас савецкіх рэпрэсіяў 20–50-х гадоў, але практычна падтрымліваюць намаганьні тых сілаў, якія, не жадаючы прызнаць Курапаты месцам масавых расстрэлаў людзей, ... імкнуцца навязаць грамадзкасьці думку пра «фашысцкі сьлед» у Курапатах. У сучасных палітычных умовах распачатае ў 1997 г. новае сьледзтва па Курапацкай справе можа стацца пачаткам фальсыфікацыі трагедыі, якая мела месца ў Курапатах у 30-х гадох. Сыходзячы з элемэнтарных нормаў чалавечай маралі й імкнучыся захаваць у недатыкальнасьці тыя пахаваньні й іх рэшткі, якія засталіся на сёньня ў Курапатах, патрабуем адмовіцца ад далейшай іх эксгумацыі».

Яшчэ адзін дакумэнт быў прысьвечаны артыкулу А. І. Залескага «Масавыя рэпрэсіі ў параўнальна-гістарычным асьвятленьні» й «Заяве» Менскага Навуковага Аб'еднаньня «Гістарычны веды», у якіх фактычна апраўдваюцца ўсе тыя зьверствы, што ўчынілі бальшавікі зь людзьмі.

Удзельнікі канфэрэнцыі заявілі, што выказваньні Залескага й «Гістарычных ведаў» патрабуюць крымінальнага разгляду, бо зьяўляюцца апалягетыкай і прапагандай генацыду.

# У БЕЛАРУСІ

## ТРАЯНСКІ КОНЬ?

Як стала вядома карэспандэнту «Пагоні», у адным з раёнаў Гарадзенскай вобласьці першасную суполку БПСМ (Беларускі Патрыятычны Саюз Моладзі — «лукашэнкаўскі камсамол») узначаліў сябра БНФ.

Паколькі БПСМаўскай сымболікі не хапае, ён «часова» выдаў сваім «патрыётам» бел-чырвона-белыя значкі. Мы не называем імёнаў і дакладных каардынатаў, але можам сказаць: «Так трымаць». Калі ўсюды сябры БНФ стануць на чале БПСМ, то «патрыёты» стануць патрыётамі.

**Вацлаў Сярпінскі, («Пагоня»)**

## НОВАЕ АДКРЫЦЬЦЁ Ў ГІСТОРЫІ

На Інтэрнэце зьявілася афіцыйная старонка Лукашэнкі **www.president.gov.by** у расейскай і ангельскай мовах.

У рубрыцы *История. Важнейшие даты* ёсьць наступная інфармацыя: **25 марта 1918 г. — объявление независимости Белорусской Советской Социалистической Республики (БССР).**

## ВЫБАРЫ Ў САЮЗЕ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

У Саюзе Пісьменьнікаў Беларусі зьмянілася кіраўніцтва: старшынёю стаў паэт Уладзімер Някляеў. Віншуем спадара Ўладзімера з абраньнем і выказваем надзею, што пад яго кіраўніцтвам Саюз Пісьменьнікаў будзе працягваць барацьбу за беларушчыну.

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА

## ЗВАРОТ

### Управы ЗБС «Бацькаўшчына» да беларускіх суполак у замежжы

У пэрыяд, які прайшоў пасьля Другога Зьезду Беларусаў Сьвету, у адносінах да беларускай дыяспары з боку беларускай дзяржавы пачалі адбывацца істотныя зьмены. Іх накірунак вызначыўся ўжо падчас правядзеньня Зьезду. ЗБС «Бацькаўшчына» запрасіла на форум прадстаўнікоў усіх беларускіх суполак замежжа. Аднак з боку дзяржаўных структураў былі прывечаныя толькі некаторыя ляяльныя да беларускіх уладаў дэлегаты з блізкага замежжа, якія былі запрошаныя на сустрэчу з прэзыдэнтам краіны. Такое разьмежаваньне прадаўжаецца й далей.

На пачатку бягучага году ў Менску адбыліся мерапрыемствы, арганізаваныя Дзяржаўным Камітэтам па Справах Рэлігіі й Нацыянальнасьцяў і Таварыствам «Радзіма»: нарада ў Камітэце й паседжаньне Савету Садзейнічаньня Таварыству «Радзіма». На абодвух абмяркоўваліся пытаньні ўзаемадзеяньня зь беларускаю дыяспараю. Такая актыўнасьць у справе падтрымкі беларускага замежжа сама па сабе можа выклікаць адабрэньне з боку ўсіх зацікаўленых у гэтай справе. Аднак некаторыя аспэкты абодвух мерапрыемстваў наводзяць на трывожныя думкі.

На абодвух паседжаньнях вялася размова аб узаемадзеяньні ізноў толькі зь беларусамі блізкага замежжа. Але й тут ня з усімі. Як можна было зразумець з выступленьняў прадстаўнікоў дзяржаўных структураў, стратэгічнай лініяй у працы з дыяспарай будзе дыфэрэнцыяваны, выбарачны падыход. Практычна гэта азначае, што маці-краіна будзе дзяліць сваіх дзяцей на лепшых і горшых, адных падтрымваць, а другіх — адлучаць. Такія адносіны могуць прывесьці да расколу сусьветнай беларускай супольнасьці, якую з такімі цяжкасьцямі ўдалося стварыць «Бацькаўшчыне» за восем гадоў дзейнасьці. Безумоўна, разьяднаньне нацыі ня будзе на карысьць і самой Беларусі.

Такое-ж неаднароднае стаўленьне праяўляецца з боку дзяржавы ў адносінах да грамадзкіх арганізацый, якія працуюць з дыяспараю. У краіне праводзіцца палітыка выцясненьня са сфэры работы з дыяспараю Згуртаваньня «Бацькаўшчына» як незалежнай грамадзкай арганізацыі. Робяцца спробы перацягваньня нашых рэгіянальных арганізацый у іншыя структуры, залежныя ад дзяржаўных уладаў. Асабліва гэта выявілася на паседжаньні Савета Садзейнічаньня Таварыству «Радзіма», якое адбылося 4—6 лютага 1998 году. Да ўдзелу ў яго рабоце былі запрошаныя толькі некаторыя прадстаўнікі беларускіх суполак з блізкага замежжа, у тым ліку й тыя, што прадстаўляюць сабою структуры ЗБС «Бацькаўшчына», аднак прадстаўнікі самога Згуртаваньня ня былі запрошаныя. Пытаньні, якія былі ўключаны ў парадак дня Савету, насілі больш шырокі характар, чым прадстаўніцтва на ім. Напрыклад, абмяркоўвалася пытаньне аб ініцыятыве скліканьня Зьезду беларусаў Расеі ў г. Уфе (Башкартастан), але ў сьпісе запрошаных былі прадстаўнікі толькі некаторых арганізацый з Расеі, якія ня мелі паўнамоцтваў прадстаўляць усіх расейскіх беларусаў. Незразумела, чаму разглядалася ініцыятыва менавіта Рэспубліканскага Нацыянальнага Культурнага Цэнтру Беларусаў Башкартастану, які пакуль што ёсьць адной з новастворанных беларускіх арганізацый і не зьяўляецца ўплывовай сілаю ў гэтай справе.

ЗБС «Бацькаўшчына» ўжо некалькі гадоў вядзе падрыхтоўчую работу па згуртаваньні беларусаў Расеі разам з тымі арганізацыямі, якія ўжо даўно стала працуюць у гэтай краіне, аднак наша ініцыятыва ня ўлічваецца, а работа пачынаецца з нулявога цыклу, што ня будзе спрыяць рэальнаму аб'яднаньню беларусаў.

У такой сытуацыі, што выяўляецца сёньня ў справе ўзаемадзеяньня нашай краіны зь беларускаю дыяспараю, Управа ЗБС «Бацькаўшчына» выказвае заклапочанасьць нэгатыўнымі тэндэнцыямі, якія ініцыююцца дзяржаўнымі структурамі й падпарадкаванымі ім грамадзкімі арганізацыямі.

Мы зьвяртаемся да беларускіх суполак у замежжы з просьбаю вызначыцца ў сваёй арыентацыі, праяўляць больш адказнасьці, абачлівасьці ў сваёй працы. Неабходна клапаціцца аб тым, каб ня быць выкарыстанымі ў справах, якія ня будуць на карысьць беларусам, а наадварот, будуць спрыяць нашаму разьяднаньню, пасеюць недавер і непаразуменьне паміж нашымі суродзічамі.

Зьвяртаем таксама ўвагу й на юрыдычныя аспэкты справы, якія абавязваюць структурныя адзінкі любой арганізацыі лічыцца з пазыцыяй кіруючых органаў, з палажэньнямі статуту гэтай арганізацыі. Арганізацыйная цэласнасьць нашага руху зьяўляецца неабходнай умоваю пасьпяховай дзейнасьці Згуртаваньня, якое мы стварылі ўсе разам у 1990 годзе. Парушэньне гэтых асноваў можа прывесьці да расколу, да ліквідацыі незалежнасьці нашага руху й стварэньні альтэрнатыўных, падпарадкаваных дзяржаўным уладам структураў.

Мы засьцерагаем беларускую грамадзкасьць у замежжы ад самых нэгатыўных наступстваў такой палітыкі.

*16 лютага 1998 году*

**Управа ЗБС «Бацькаўшчына»**

## ЮБІЛЕІ

У красавіку спаўняецца



**75** гадоў **ВАСІЛЮ ШЧЭЦЬКУ,** аднаму з найболыш актыўных беларускіх дзеячоў.

**70** гадоў **ЮРКУ СТАНКЕВІЧУ** Старшыню Згуртаваньня Беларусаў у Чэхіі.

**70** гадоў **ХВЕДАРУ НЮНЬКУ** Старшыню Згуртаваньня Беларускае Культуры ў Летуве Сябру Прэзыдыюму Рады БНР

Галоўная Ўправа БАЗА, рэдакцыйная калегія газэты «Беларус», Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва сардэчна вітаюць юбіляраў і жадаюць здароўя й сілаў шчыра служыць Бацькаўшчыне.

## ВЕСТКІ З ЭСТОНІІ

Бадай што не памылюся, калі скажу, што самай значнай падзеяй у жыцьці беларусаў Эстоніі ў мінулым годзе стаў прыезд сюды на Дзень Волі Данчыка, які вельмі цёпла быў прыняты ў Таліне. Праз нейкі час візыт Багдана Адрусішына як бы дапоўнілі «Сябры» са сваімі канцэртамі ў сталіцы Эстоніі, а таксама ў г. Нарва, дзе іх прымалі беларусы зусім нядаўна ўтворанай суполкі «Спадчына» на чале са старшынёю Тацьцянай Караткевіч і пры падтрымцы мясцовага бізнэсмэна-беларуса Валерыя Жураўлёва.

Шмат добрых словаў заслугоўвае таксама й праца Прэзыдэнта Згуртаваньня Беларусаў Таліну «Бацькаўшчына» Ніны Савінавай, якая ня толькі ладзіла канцэрты, але й нястомна працавала на эстонскім Радыё-4. У сваіх штонядзельных гадзінных перадачах на беларускай мове яна падае навіны, цікавую інфармацыю ды выдатныя песьні шматлікіх знакамітых калектываў.

Дзякуючы намаганьням мастачкі-беларускі Маргарыты Астравумавай, у горадзе Йыхві было адчынена некалькі цікавых выставаў, пачала працаваць нядзельная школка.

Неўзабаве ў горадзеКівіылі адкрыецца табліца беларускага пісьменьніка Янкі Скрыгана.

У ліпені Беларуска-Эстонскае Згуртаваньне (БЭЗ) плянуе правесьці традыцыйную роварную вандроўку — гэтым разам на абток Саарэмаа. І разам з намі ў гэтым мерапрыемстве зьбіраюцца ўжо браць удзел гомельскія мастакі з творчага аб'яднаньня «МЭЯ».

Магчыма, у нашай вандроўцы пажадае паўдзельнічаць і хтосьці з Амэрыкі? Тады сьпяшайцеся, бо часу засталося ня вельмі ўжо й шмат.

**Інфармацыйны аддзел БЭЗ, Ул. Выырас**

## ПАЗБАЎЛЕНЫЯ ДЫПЛЯМАТЫЧНЫХ ПАШПАРТОЎ

Беларусы Эстоніі вельмі добра ведаюць былых супрацоўнікаў беларускага консульства ў Таліне Віктара Раманоўскага ды Ігара Баброўскага. За час працы ў консульстве маладыя беларускія дыпляматы паказалі сябе з выдатнага боку, заслужыўшы павагу ня толькі нашых землякоў, але й мясцовых уладаў.

І вось зусім нядаўна іх спачатку адклікалі ў Менск, а потым наагул пазбавілі дыпляматычных пашпартоў...

«За што?» — пытаецца у сваёй перадачы «Бацькаўшчына» на хвалях эстонскага радыё Ніна Савінава. «За што?» — пытаюцца ў мяне мае сябрыбеларусы пры сустрэчы.

Ці-ж не за тое, што пры нашых сустрэчах у Эстоніі Віктар Раманоўскі ды Ігар Баброўскі заўсёды размаўлялі на беларускай мове?

**Уладзімер Дзехцярук**

## БАЗАЎСКІЯ НАВІНЫ

### ПЕРАВЫБАРЫ Ў НЬЮ ЁРКУ

11 сакавіка адбыўся перавыбарчы сход мясцовага аддзелу БАЗА. Старшынёю аддзелу стаў сп. Віталь Зайка. Аднак новаабраная ўправа аддзелу не прыступіцца да выкананьня сваіх абавязкаў, пакуль ня будзе прынятая справаздача скарбніка аддзелу сп. Зьміцера Левіта.

### СЭНАТАР ГРЭМ АДКАЗВАЕ НА ЛІСТ АД БАЗА

*Высокашаноўны Сп. Антон Шукелойць!*

*У адказ на Ваш ліст у справе зьняволеньня маладых дэмакратаў у Беларусі паведамляю, што справу Вадзіма Лабковіча й Аляксея Шыдлоўскага мы парушылі ў Вене на сустрэчы кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь з прадстаўнікамі Арганізацыі па Бясьпецы й Супрацоўніцтве ў Эўропе.*

***Сэнатар Філ Грам***

# САКАВІКОВЫЯ

## ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЭРЫКІ

### НЬЮ ЁРК

**МАНГЭТАН.** 14 сакавіка а 13 гадзіне беларусы зь Нью Ёрку й наваколься прыйшлі да Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, каб гэткім адзначыць 80-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР, засьведчыць сваю вернасьць ідэалам 25 Сакавіка ды задэманстраваць нязгоду зь беспардоннымі дзеяньнямі сёньняшніх беларускіх уладаў.

**ДЖАМЭЙКА, КЎІНС.** У той жа дзень, 14 сакавіка, адзначыў 80-ю гадавіну БНР Нью Ёрскі Аддзел БАЗА. Сымбалічна, што сьвяткаваньне адбылося ў Фундацыі, якая носіць імя Прэзыдэнта Рады БНР Пётры Крэчэўскага. Заля Фундацыі ўжо даўна ня бачыла такой колькасьці прысутных! Асабліва шмат было моладзі.

Вёў вечарыну Старшыня Нью Ёрскага Аддзелу БАЗА Марат Клакоцкі. Рэфэрат з нагоды сьвята прачытаў Юрась Васілеўскі. Сярод выступоўцаў былі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, Старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелойць, Старшыня БНФ Зянон Пазьняк. Шчодрая пачостка, да зарганізаваньня якой прыклалі руку сп-ва Вера ды Францішк Бартуль і Ала Кузьміцкая-Шчэцька, ды выдатная гра піяніста Ігара Кавальчука спрыялі стварэньню сапраўды сьвяточнай атмасфэры.

З. С.

**РЫЧМАНД ГІЛ, КЎІНС.** Беларуская грамада, што гуртуецца пры царкве сьв. Кірылы Тураўскага, адзначыла Сакавіковы юбілей у нядзелю 5 красавіка.

Дзень выдаўся пагодны, ясны, як і сама ідэя 25 Сакавіка. У царкву сабраліся людзі, каб з малітваю адсьвяткаваць урачыстасьць нашай дзяржаўнасьці.

Тут таксама недалёка й Вялікдзень, што нагадвае нам пра Ўваскрошаньне Хрыста, да якога зьвяртаем мы нашы просьбы: Дапамажы, Божа, каб і наша Беларусь уваскросла!

Айцец Грэгары адслужыў абедню, а ў канцы службы — малебен за беларускі народ; хорам кіраваў Сымон Жамойда; вэтэраны трымалі беларускі й амэрыканскі сьцягі. Пазьней у Беларускім Грамадзкім Цэнтры пад царквою адбылася ўрачыстая акадэмія, якую вяла спн. Ларыса МакКэна-Клінцэвіч.

Сп. Васіль Шчэцька прачытаў рэфэрат, у якім закрануў ня толькі падзеі 80-гадовай даўніны, але й сучасную сытуацыю на Беларусі: лукашэнкаўскі рэжым стаў для нашай Бацькаўшчыны другім Чарнобылем.

Афіцыйная частка скончылася сьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

В. Ш.

**БРУКЛІН.** 22-га сакавіка ў Катэдральным Саборы сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ адбылося сьвяткаваньне 80 угодкаў БНР.

Сьвяткаваньне пачалося зь Літургіі й Малебну, якія адправіў Я. М. Мітрапаліт Ізяслаў. У гэты дзень заплянаваны быў канцэрт папулярных артыстаў Валянціны Пархоменкі, Алеся й Вольгі Казакоў, але прырода ўнесла свае карэктывы. Ці ня першы раз за зіму выпаў сьнег, які ўнемажліўіў прыезд артыстаў з далёкае ваколіцы штату Нью Ёрк. Тым ня менш, сюрпрыз прыроды не сапсаваў урачыстасьці. Хвасновы сьнег нават узьняў настрой.

У залі Сабору было ажыўлена. Спадарыні М. Данілюк і Т. Войтанка падрыхтавалі добры буфэт. Сабраныя гутарылі, абменьваліся апошнімі навінамі.

Са зьместоўным рэфэратам выступіў Андрэй Падлескі, які пазнаёміў сабраных з храналёгіяй гістарычных падзеяў, зьвязаных з узьнікненьнем БНР у 1918 годзе.

Верш Уладзімера Дубоўкі «За ўсе часы, за ўсе народы сьвету», за які паэту ў свой час пасадзілі ў турму, прачытаў сп. Б. Данілюк.

Угодкі Беларускае Народнае Рэспублікі гэтым разам былі адзначаныя ў адчуваньні еднасьці зь Беларусяй. Прысутным былі зачытаныя шматлікія віншаваньні й прывітаньні, якія прыйшлі на адрас Сабору ад старшыні Аб'яднанае Грамадзянскае Партыі Станіслава Багданкевіча, ад беларусаў Эстоніі, ад Цэнтру «Беларуская Пэрспэктыва», ад Рэлігійна-Асьветнага Таварыства імя Сьвятое Сафіі Слуцкай зь Менску, гэтаксама з Магілёва, Гомеля ды ад прыхільнікаў БАПЦ зь іншых мясьцінаў.

Затым публіка сьпявала патрыятычныя й народныя песьні пад акампанэмэнт Ігара Кавальчука.

Ю. В.



*Рэфэрат чытае Андрэй Падлескі*

### НЬЮ ДЖЭРЗІ

**ГАЙЛЕНД ПАРК.** Урачыстасьці ў Нью Джэрзі распачаліся 29 сакавіка сьвяточнай багаслужбай у царкве Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ. Кульмінацыяй набажэнства стаў супольны сьпеў гімну-малітвы «Магутны Божа».

**НЬЮ БРАНСЎІК.** У той жа дзень каля 150 беларусаў з штатаў Нью Ёрк і Нью Джэрзі зьехаліся сюды на сьвяткаваньне Сакавіковых угодкаў, якое, ужо каторы год запар, адбылося ў гатэлі «Гаят».

Вёў сход сп. Юрка Азарка. Урачыстая частка сьвята пачалася з прысягі на вернасьць, якую прамовіў 6-гадовы Хрыстафор Азарка. Далей была зачытаная Праклямацыя губэрнатара штату Нью Джэрзі Крыстын Тод Ўітмэн, у якой дзень 25 сакавіка 1998 году абвяшчаўся Днём Беларускай Незалежнасьці ў штаце Нью Джэрзі, а таксама прывітаньні да ўдзельнікаў сьвяткаваньняў ад сэнатара Фрэнка Р. Лёйтэнбэрга й кангрэсмэна Боба Фрэнкса. Выступіў сябра Асамблеі штату Нью Джэрзі Джон Вісьнеўскі. Сьвятар царквы Божае Маці Жыровіцкае БАПЦ Васіль Андрэюк прачытаў малітву.

З асноўным рэфэратам выступіў Сяргей Навумчык, Заступнік Старшыні Рады БНР (чытайце на с. 1, 6, 7). Ад Галоўнае Ўправы БАЗА сход прывітаў сп. Антон Шукелойць. Сп. Віктар Тур у сваёй эмацыйнай прамове сказаў: **«Місьтэр Лукашэнка, ці чуеш ты нас?! Пасьля 150 гадоў царызму і 75 гадоў сацыялізму — МЫ ЯШЧЭ ЖЫВЕМ! Ці чуеш ты нас, місьтэр Лукашэнка?! Мы маем сказаць табе два маленькія словы: ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!».**

На ўрачыстым сходзе прысутнічалі ды прамаўлялі й ганаровыя госьці: старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла й старшыня БНФ Зянон Пазьняк. Слова мсў таксама й прысутны ў залі Прэзыдэнт Беларускага Фонду «Свабода й Дэмакратыя» зь Менску сп. Віктар Герцык.

Сход аднагалосна прыняў рэзалюцыю, якая падкрэсьлівае неабходнасьць «інфармаваць амэрыканскі народ і ўрад ЗША пра факты далейшага парушэньня правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь», а таксама «заклікаць Сэнат Злучаных Штатаў уважліва прааналізаваць шкодны з пункту гледжаньня захаваньня сувэрэнітэту Беларусі вынік, які будзе мець пашырэньне НАТО на ўсход, паколькі яно падтрымае й паскорыць жаданьне Расеі ажыцьцявіць рэінтэграцыю Беларусі з Расеяй у якасьці сродка ўзмацненьня дзяржаўнай бясьпекі Расеі перад аблічам ваеннай пагрозы пашыранай НАТО.

«Заклікаць Злучаныя Штаты прымусіць урад прэзыдэнта Лукашэнкі падпарадкоўвацца рашэньням Гэльсынскага Заключнага Акту й Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а таксама іншых дамоўленасьцям Арганізацыі па Бясьпецы й Супрацоўніцтве ў Эўропе.

«Гарантаваць свабоду прэсы й сходаў, ствараць умовы для росквіту беларускай культуры й забясьпечыць разьдзяленьне галінаў улады; а таксама падтрымаць незалежнасьць Беларусі, бо палітыка Злучаных Штатаў павінна

1) падтрымаць беларускі народ у справе захаваньня незалежнай дзяржавы;

2) садзейнічаць законнасьці, захаваньню правоў чалавека й галоўных свабодаў;

3) запэўніць, што Беларусь мае шанец на выжываньне як роўная й паўнавартасная дзяржава сярод сувэрэнных дзяржаваў сьвету».

Удзельнікі сьвяткаваньня мелі магчымасьць агледзець і набыць беларускія кнігі, сувэніры, карціны, якія былі выстаўленыя ў фае гатэля, а таксама паслухаць сьпевы Зьміцера Яўтуховіча й някепска падсілкавацца.

І. С.

### ДАР САКАВІКА

Штогод у сакавіку Рада БНР праводзіць збор ахвяраў у Фонд БНР — Дар Сакавіка.

Сёлета, як і кожнага году, Скарбнік БНР разаслаў шмат каму з суродзічаў, што жывуць у розных краінах сьвету, ліст ад імя Старшыні Рады БНР І. Сурвіллы з просьбаю падтрымаць касу БНР. Шмат хто адгукнуўся прыхільна, зрабіўшы добры ўчын, за што ім шчырая ўдзячнасьць.

Усім тым, хто яшчэ дзеля нейкіх прычынаў ня змог або не пасьпеў адгукнуцца на заклік Старшыні Рады БНР, або не атрымаў ліста Старшыні, — паведамляем:

чэкі на Дар Сакавіка можна слаць беспасярэдна на адрас Скарбніка Рады БНР Віталя Кажана

**Mr. Vitaly Kazan**
Pennington-Lwr. Rd.
Pennington, NJ 08534

**Сакратарыят Фінансаў Рады БНР**

# СЬВЯТКАВАНЬНІ

## ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЭРЫКІ

### ЧЫКАГА

Тут сьвяткаваньне Дня Волі прайшло 29 сакавіка.

Распачаліся ўрачыстасьці малебнам за беларускі народ у беларускай праваслаўнай парафіі сьв. Юр'я. Малебен адправіў протаярэй а. Дзімітры.

Вёў урачыстасьць сакратар Беларуска-Амэрыканскае Нацыянальнае Рады (БАНР) у Чыкага Мікола Латушкін, які падзякаваў а. Дзімітрыю й Старшыні БАНР Міхасю Каленіку за працу дзеля падрыхтоўкі сьвята. Пасьля адыграньня амэрыканскага гімну прысутныя хвілінаю цішыні ўшанавалі памяць змагароў, якія памерлі за вольную й незалежную Беларусь.

Праклямацыю-віншаваньне з нагоды 80-х угодкаў абвешчаньня БНР ад губэрнатара штату Іліной сп. Джыма Эдгара зачытаў Пётар Пуп. Затым былі зачытаныя іншыя віншавальныя лісты, дасланыя на адрас БАНР: ад Рады БНР, Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына», Грамадзкага Навукова-Аналітычнага Цэнтру «Беларуская пэрспэктыва», Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, ад БАЗА (Кліўлендзкі Аддзел). Зьмест віншаваньняў гаварыў аб непахісным імкненьні змагацца за беларускую Беларусь, якая павінна стаць квітнеючай эўрапейскай дзяржавай, у якой людзі будуць мець годныя ўмовы жыцьця.



*Гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» сьпяваюць (зьлева) М. Кляйнер, М. Латушкін, А. Васіленка, У. Вераб'ёў, П. Кляпацкі й М. Каленік.*

Ванкарэм Ніківаровіч прачытаў грунтоўны даклад, у якім, у прыватнасьці, адзначалася:

*У адрозненьне ад улады й рэжыму, якія існуюць сёньня ў Беларусі, Беларуская Народная Рэспубліка й яе Рада былі поўнасьцю легітымныя, законныя, яны адлюстроўвалі волевыяўленьне ўсіх сацыяльных, грамадзкіх, палітычных, этнічных колаў і групаў тагачаснай Беларусі.*

*Мне хочацца больш падрабязна спыніцца менавіта на гэтай праблеме — праблеме легітымнасьці, законнасьці ўлады на Беларусі тады, 80 гадоў назад, і параўнаць з тым, што мы маем цяпер, пасьля лукашэнкаўскага рэфэрэндуму ў лістападзе 1996 году.*

*Пасьля лютаўскай, 1917 году рэвалюцыі, якая скінула ўладу цара, на абшарах былой Расейскай Імпэрыі значна актывізаваліся вызвольныя, дэмакратычныя, нацыянальна-вызваленчыя працэсы. Паскорыліся яны ў той час і на Беларусі.*

*5 сьнежня 1917 году быў скліканы Першы Ўсебеларускі Кангрэс. Ён сабраў 1872 дэлегатаў, якія прадстаўлялі найперш усе раёны, дзе кампактна жылі этнічныя беларусы — ад Смаленшчыны да Беласточчыны.*

*Па-другое, гэтыя дэлегаты прадстаўлялі абсалютна ўсе палітычныя партыі, якія дзейнічалі ў той час на Беларусі, усе сацыяльныя групы, усе этнічныя меншасьці, што тут жылі — палякаў, яўрэяў, татараў.*

*Апрача дэлегатаў ад мясцовага жыхарства на зьезьдзе прысутнічалі прадстаўнікі беларусаў, якія служылі ў войску й флёце, а таксама беларусаў-бежанцаў, што мусілі пакінуць Бацькаўшчыну па прычыне вайны.*

*Такога прадстаўнічага па тым часе Кангрэсу, як Першы Ўсебеларускі, ня здолелі склікаць ані самі расейцы, ані ўкраінцы ці іншыя народы колішняй Расейскай Імпэрыі».*

Далей прамоўца зьвярнуўся да дзейнасьці Рады, абранай Першым Кангрэсам.

*«За параўнаўча кароткі тэрмін (да ўваходу Чырвонай Арміі ў Менск 10 сьнежня 1918 году) Рада БНР пасьпела зрабіць вельмі шмат, шырока разгарнуўшы дзяржаўнае будаўніцтва. Былі выпрацаваны ўмовы арганізацыі тэрытарыяльнага апарату ўлады — Правілы выбараў мясцовых радаў, прычым прадугледжвалася перадаць гэтым радам цэлы шэраг адміністратыўных функцыяй ад акупацыйнай улады. Была дасягнута пэўная самастойнасьць у гандлі, прамысловасьці, адукацыі, ахове грамадзкага парадку. Былі сфармаваны групы беларускіх дарадцаў пры павятовых камэндатурах. Было створана Бюро ў Справах Напісаньня Падручнікаў і Таварыства «Асьвета» для іх выданьня, курсы для настаўнікаў і школьная інспэкцыя, пашырана сетка школаў. Адкрыўся Беларускі Пэдагагічны Інстытут. Пачало працаваць Таварыства Драмы й Камэдыі, першы беларускі тэатар, пачалі выходзіць некалькі нацыянальных газэт і часапісаў. Адчыніліся дыпляматычныя прадстаўніцтвы Беларускай Народнай Рэспублікі на Ўкраіне і ў Летуве. Узьнікла Беларуска-Ўкраінскае Таварыства Збліжэньня ў Кіеве. Дыпляматычныя місіі былі накіраваны ў Варшаву, Бэрлін, Копэнгагэн, Бэрн...*

*Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку афіцыйна прызналі Армэнія, Аўстрыя, Грузія, Латвія, Летува, Польшча, Турцыя, Украіна, Фінляндыя, Чэхаславаччына, Эстонія».*

Скончыў свой даклад В. Ніківаровіч вершам Рыгора Барадуліна:

*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Годны дзень*
*Беларускай Дзяржавы.*
*Веснаплынных вятроў талака*
*Пыл з кароны атрэсла іржавы.*
*Шматавалі нас досыць арлы*
*І з адной і зь дзьвюма галавамі.*
*Мы ня зь нейкай бязроднай імглы,*
*Нас вякі як сваіх*
*Гадавалі.*
*Мы ратаі сьвятла,*
*Крывічы,*
*Верхачы няўміручай Пагоні —*
*Маладзік сакалом на плячы,*
*Гартны меч у цьвярдое далоні.*
*Лучыць нашыя мары рака*
*Бел-чырвона-белага сьцяга*
*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Наша сьвята,*
*Пароль*
*І прысяга!*



*Айцец Дзімітры Башко й асыстэнт губэрнатара штата Іліной у этнічных справах Пэт Міхальскі з удзельніцамі танцавальнага гуртка «Лянок» (зьлева) Марыяй Башко, Ірынай Камаровай, Алінай Ступакевіч, Кацяй Камаровай.*

У мастацкай частцы прыступіў дзіцячы танцавальны гурток «Лянок» (зарганізаваны пры парафіі сьв. Юр'я матушкай Ірэнай Башко й Міраславаю Камаровай), а таксама сьпевакі Андрэй Васіленка, Пётар Кляпацкі, Міхась Кляйнер, музыка Уладзімер Вераб'ёў. Выступы артыстаў былі спатканыя захопленымі воплескамі залі.

Дарэчы, сама заля была ўдэкараваная мастацкімі працамі эмігрантаў зь Менску Леаніда Асеньняга й Анатоля Упарта. Творы мастакоў адлюстроўваюць сьвятыні Менску, беларускія пэйзажы. Па ініцыятыве а. Дзімітрыя людзі прынесьлі разнастайныя сувэніры, беларускія народныя вырабы: вышываныя кашулі, сурвэткі, ручнікі, абрусы, шкло і г. д. Адным словам, заля выглядала на сапраўдны мастацкі музэй. Таксама былі выстаўленыя беларускія кнігі, падшыўкі беларускіх газэт.

Магутным адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ўрачыстая частка сьвяткаваньня завяршылася, пасьля чаго пачаўся сьвяточны абед.

**М. Л.**

### КЛІЎЛЕНД

Насуперак пэсымізму, выкліканаму апошнімі падзеямі ў Беларусі, мясцовы аддзел БАЗА пастараўся адзначыць Дзень 25 Сакавіка асабліва ўрачыста.

29 сакавіка ў царкве Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ сьвятар Дзімітры Беленькі адслужыў малебен за Беларусь і беларускі народ, царкоўны хор прыгожа выканаў царкоўныя сьпевы. У часе малебна стаяла сьцяжная варта зь беларускім і амэрыканскім сьцягамі.

Далейшы цяг сьвята адбыўся ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры «Полацак», перад якім лунталі беларускі й амэрыканскі сьцягі. Сцэну залі «Полацка» таксама ўпрыгожвалі штандары ды беларускія арнамэнты. Сьвяточны банкет і акадэмія распачаліся а 1-й гадзіне ўдзень. Праграму вёў Старшыня Кліўлендзкага Аддзелу БАЗА Янка Ханенка, які ў сваім прывітальным слове зазначыў, што, нягледзячы на дзеяньні прарасейскага рэжыму Лукашэнкі, у тым ліку й фізычныя ды судовыя расправы з патрыётамі, народ не здаецца, пратэстуе.

Затым Янка Ханенка рэпрэзэнтаваў прамоўцу — выдаўца газэты «Беларускі Дайджэст» сп. Міколу Прускага. Прывітаўшы прысутных, сп. Прускі ў прыватнасьці сказаў, што за мінулыя восем дзесяцігодзьдзяў Рада БНР на эміграцыі зрабіла вялікую працу, увёўшы Беларусь у кола дэмакратычных краінаў сьвету. Сёньняшнія беды Беларусі — ад таго, што мы, наша нацыя ня маем добрага дыпляматычнага лідэра, які мог-бы павесьці народ за сабой. Потым сп. Я. Ханенка згадаў арганізацыі ды асобаў, ад якіх былі атрыманыя сьвяточныя віншаваньні. Сп. Павал Васілеўскі, які цяпер працуе ў апараце штату Агаё, прачытаў праклямацыю губэрнатара штату Грыгора Вайновіча з нагоды беларускага сьвята.

У канцэртнай частцы, пад кіраўніцтвам Олі Лукашэвіч і акампанэмэнт Алеся Яноўскага й Хведара Паўлаўца хор «Васілёк» у нацыянальных строях выдатна выканаў дзесяць беларускіх — патрыятычных і фальклёрных — песьняў, парадаваўшы сваім майстэрствам усіх прысутных. Скончылася праграма сьвята адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Кастусь Полацкі**

# САКАВІКОВЫЯ

## КАНАДА

**ТАРОНТА.** 24 сакавіка праз увесь дзень перад ратушай Таронта красаваў бел-чырвона-белы сьцяг.

80-я ўгодкі БНР беларускае грамадзтва Таронта й ваколіцаў адзначыла 5 красавіка. Па рашэньні Ўправы Згуртаваньня Беларусаў Канады такая дата была абраная для таго, каб адзначыць гэты сьвяты для беларусаў дзень разам са Старшынёю Рады БНР І. Сурвіллай.

Урачыстасьць пачалася Архірэйскай Багаслужбай у царкве БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага. Малітва за беларускі народ і казань рэлігійна-патрыятычнага зьместу, прамоўленая Архіяпіскапам Мікалаем, надалі сьвяточны настрой прысутным. Падзяка за дапамогу ў адправе багаслужбы належыцца айцом Васілю й Юрыю.

Сьвяткаваньне працягвалася ў залі, дзе загадзя было падрыхтаванае падсілкаваньне. Урачыстасьць, якую вёў сп. Аляксандар Бушкевіч, распачалася агульным спевам «Наша Маці–Краіна...». Сп. Раман Кардонскі зачытаў урыўкі з мноства дасланых прывітаньняў.



*Верш Я. Купалы «Брату ў чужыне» дэклямуе Алеся Шаўчэнка*

Спн. Надзя Дробіна хораша рэпрэзэнтавала Старшыню Рады БНР Івонку Сурвіллу, якая прачытала з нагоды сьвята грунтоўна падрыхтаваны даклад.

Прагучалі вершы Янкі Купалы ў выкананьні др. Раісы Жук-Грышкевіч (верш «Прарок»), 9-гадовай Аляксандры Шаўчэнкі (верш «Брату ў чужыне»), сп. Міколы Ганько (верш «Свайму народу»). З кароткім словам выступіў пісьменьнік Кастусь Акула.

Напрыканцы праграмы др. Р. Жук-Грышкевіч прачытала рэзалюцыю, якою ўдзельнікі ўрачыстага сходу ў гонар 80-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР пастанавілі: 1) асудзіць дыктатарскі рэжым прэзыдэнта Лукашэнкі за ягонае нялюдзкае стаўленьне да беларусаў; 2) пратэставаць супраць парушэньня правоў чалавека ў Беларусі й дыскрымінацыі ўрадам Лукашэнкі беларускай мовы; 3) заклікаць ААН, урад Канады, урады вольных краінаў і сусьветную грамадзкасьць выказацца ў абарону ахвяраў дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі, выкарыстаць сваю ўладу й прэстыж з мэтаю ажыцьцявіць дыпляматычны ды маральны ціск на ўрад Беларусі, які бессаромна парушае правы й свабоды чалавека.

Рэзалюцыя была прынятая аднагалосна. На заканчэньне Старшыня ЗБК М. Ганько падзякаваў усім прысутным за ўдзел у сьвяце, у тым ліку Старшыні Згуртаваньня Беларусаў Кўэбэку Рыгору Хрэноўскаму й сябру Ўправы Паўлу Парфёнаву, а таксама гурту пад кіраўніцтвам спн. Марыі Ганько, стараньнямі якога былі прыгатаваны смачны пачастунак.

Скончылася сьвята адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Аднак пасьля сканчэньня прысутныя зь неахвотаю пакідалі Беларускі Грамадзкі Цэнтар: кожнаму хацелася пагутарыць з суродзічамі, абмяняцца навінамі, хацелася проста пабыць у роднай беларускай грамадзе.

## ЧЭХІЯ

**ПРАГА.** Гэтай вясною зьявіліся новыя падставы гаварыць пра беларускую Прагу. Ідэю, каб беларусы Эўропы супольна сустрэлі Сакавік менавіта тут, першымі выказалі студэнты-беларусы з эўрапейскіх унівэрсытэтаў, бо ў іх сьведамасьці Прага — месца сталага базаваньня кіраўніцтва БНР — асацыюецца зь беларушчынай, зь імёнамі Міхала Забэйды-Суміцкага, Ларысы Геніюш, Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі...

Дарэчы, якраз сёлета з дапамогі фундацыі Крэчэўскага ўдалося адрэстаўраваць надмагільныя помнікі пахаваных на праскіх Ольшанах прэзыдэнтаў БНР П. Крэчэўскага й В. Захаркі.

З паклону магілам прэзыдэнтаў пачаліся праскія Сакавіковыя Сьвяткаваньні. Тут жа, у капліцы на Ольшанскіх магілках, а. Канстанцін Бандарук адслужыў памінальны малебен.

Між тым, як выявілі сябры праскай суполкі «Скарына», апошні юбілей БНР, што тут сьвяткаваўся, — 5-я ўгодкі Рэспублікі 22 сакавіка.

Гэтым разам у Народным Доме на Вінаградах сабралася поўная заля: акрамя праскіх беларусаў і чэскіх гасьцей — беларусы з Бэльгіі, Францыі, Аўстрыі, Польшчы, Нямеччыны. У Прагу-ж, як у колішнюю «БНРаўскую сталіцу», на адрас нашай урачыстай канфэрэнцыі прыйшлі й шматлікія віншаваньні з усяго сьвету — ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, ад беларускіх суполак у Амэрыцы, Аўстраліі, Польшчы, Канадзе, ад Аб'яднаньня Беларускіх Татараў... Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач вітала ўсіх асабіста. Ад Прэзыдыюму Рады БНР да прысутных зьвярнуўся адзін са старэйшых радных сп. Янка Жучка.

Прыйшло віншаваньне й з канцылярыі чэскага прэзыдэнта. Вось, што ў прывітальнасьці ў ім адзначалася: «У тым жа годзе, калі вашыя продкі паклалі аснову сучаснай беларускай дзяржаўнасьці, хаця й трывала яна вельмі каротка, паўстала свабодная й сувэрэнная Чэхаславаччына. Нашыя лёсы як бы сплеценыя... Доўгія дзесяцігодзьдзі пасьля Другой сусьветнай вайны нашым краінам выпала падобная доля. Ні вы, ні мы не маглі свабодна вырашаць, якімі павінны быць нашыя краіны й куды яны хочуць накіроўвацца. Аднак на працягу апошніх дзесяці гадоў шмат зьмянілася. Таму й сёньня жадаю вам, каб для вас Прага й наша краіна былі й надалей улюбёным месцам, але перадусім, каб вы й вашыя суродзічы маглі нас наведваць як свабодныя грамадзяне свабоднай краіны». Падпісаў гэты ліст шэф канцылярыі прэзыдэнта Чэскай Рэспублікі Іван Мэдэк.

«Улюбёнай Празе» й была прысьвечаная сама навуковая канфэрэнцыя. Вячка Станкевіч, кіраўнік беларускай службы Радыё «Свабода», спыніў увагу на тым, колькі выбітных асобаў узгадавала праская эміграцыя. Сярод іх гісторык і палітык Вінцэнт Жук-Грышкевіч, паэтка Ларыса Геніюш, мовазнаўца Янка Станкевіч, доктар прыродазнаўства Аляксандар Орса, інжынэр Уладзімер Тамашчык (пазьней архіяпіскап Васіль).

Сяргей Шупа, дасьледнік гісторыі БНР, укладальнік новай кнігі яе архіваў, таксама акрэсьліў сваю тэму як «Прага й беларуская незалежнасьць». Падсумоўваючы шматвяковую гісторыю гэтых дачыненьняў, сп. Шупа выказаў удзячнасьць гораду Празе як «сталіцы нашай Эўропы, дзе друкаваў нашы першыя кнігі й ствараў каралеўскія сады Францішак Скарына, дзе як у самым надзейным банку захоўвалася дзесяцігодзьдзямі ідэя беларускай незалежнасьці, рыцары якой спачылі ў гэтай зямлі, дзе сёньня, напярэдадні новага стагодзьдзя б'юцца новай надзеяй нашыя сэрцы».

І — дадамо — дзе зноў нарастае хваля беларускай эміграцыі, як палітычнай, так і эканамічнай. У сьвяточную залю прыйшлі ня толькі ўцекачы, якія цяпер чакаюць вырашэньня свайго

# 80 ГАДОЎ ТАМУ

(Працяг з с. 1)

рускай Народнай Рэспублікі, якая была вымушаная працаваць на выгнаньні. Менавіта тут, у эміграцыі, захоўваліся ідэалы 25 Сакавіка. Сёньня мы з удзячнасьцю прыгадваем імёны Прэзыдэнтаў Рады БНР — Івана Серады, Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі, Міколы Абрамчыка, Вінцэнта Жук-Грышкевіча, Язэпа Сажыча.

Палітыка скажэньня гісторыі ды русыфікацыі, якую ў БССР ажыцьцяўлялі камуністычныя ўлады, прывяла да таго, што на пачатку 80-х гадоў пра БНР як незалежную беларускую дзяржаву ведалі хіба адзінкі. Зрэшты, і яны, з большага, не маглі гаварыць на ўвесь голас. Але дыяспара такую магчымасьць мела, і менавіта дыяспара на працягу дзесяцігодзьдзяў несла да вольнага сьвету праўду пра Беларусь. Менавіта дзякуючы дыяспары парляманты й урады сьвету ведалі, што ёсьць беларусы, якія ніколі ня зьміряцца зь інкарпарацыяй іхняй Бацькаўшчыны Масквою.

У 1991 годзе на Беларусі апазыцыя дамаглася незалежнасьці Беларусі й абвешчаньня «Пагоні» й бел-чырвона-белага сьцягу ў якасьці дзяржаўных сымбаляў. Беларусь зноў атрымала шанец, і трэба было якіх дзесяць гадоў, каб працэс умацаваньня дзяржаўнасьці й усталяваньня дэмакратычных ідэалаў стаў незваротным. Чаму так ня здарылася — на тое сёньня прыводзіцца шмат прычынаў. Асабіста мне падаюцца найбольш блізкімі да праўды словы Васіля Быкава ў ягоным апошнім інтэрвію: «БНФ ня быў падтрыманы народнымі масамі, бо масы не паверылі ў магчымасьць незалежнасьці. Не паверылі, што гэта карысна. Нацыя, выгадаваная ў няволі, пачала лічыць свабоду нечым шкодным і непатрэбным. І гэта зразумела. Калі стагодзьдзямі зь цябе рабілі раба, за год-другі ты ня здолееш пертварыцца ў абаронца свабоды, не паверыш у дэмакратычныя каштоўнасьці».

Вылучаны прарасейскімі коламі з дапамогай маладых амбітных авантурыстаў, шляхам падманаў і правакацыяў да ўлады на Беларусі прыйшоў чалавек, які адразу-ж абвясьціў сваёй галоўнаю мэтаю ліквідацыю беларускай дзяржаўнасьці.

Гаворачы пра БНР, мы вымушаныя ўвесь час казаць пра нашыя палітычныя страты. Гісторыю, нажаль, не павернеш. Але зь яе, пры жаданьні, можна зрабіць высновы.

Акт 25 Сакавіка у гістарычнай пэрспэктыве выявіў жыцьцяздольнасьць ідэі беларускай дзяржаўнасьці й незалежнасьці. І гэта, магчыма, самы важны напамінак для ўсіх беларусаў менавіта ў той час, калі над Бацькаўшчынай лунае пыл пэсэмізму й адчаю. Нават у самыя змрочныя часы заставаліся беларусы, якія мэтаю свайго жыцьця бачылі ўвасабленьне ідэі вольнай Беларусі. Часамі такіх людзей былі сотні. Часамі іх заставаліся толькі дзясяткі. Але ідэя выжыла. Тыя трыццаць тысячаў грамадзянаў, якія тыдзень назад выйшлі на прашпэкт Скарыны, каб адзначыць 80-я ўгодкі БНР, — толькі частка тых, хто бачыць ў Акце 25 Сакавіка найважнейшую падзею нацыянальнае гісторыі. А галоўнае — гэтыя людзі гатовыя супрацьстаяць антыбеларускаму рэжыму.

Менавіта таму гэтая ідэя выклікае стабільную й усё большую нянавісьць тых, хто само існаваньне Беларусі ўспрымае як гістарычны казус. Лукашэнкаўская «Народная газета» надрукавала артыкул пад назвай «Рада БНР: 80 гадоў вайны супраць уласнага народа». Лукашэнка, які давёў свой народ да таго, што дзеці ў школах губляюць прытомнасьць з голаду, — спрабуе папракаць тых, хто на справу служэньня народу паклаў жыцьцё.

Зрэшты, ужо ня толькі менская лукашэнкаўская прэса адзначыла юбілей БНР патокамі лаянкі, але й камуністычная маскоўская. Газета «Праўда»

# СЬВЯТКАВАНЬНІ

## ФРАНЦЫЯ

**ПАРЫЖ.** Падчас сьвяткаваньня 25 Сакавіка нешматлікая беларуская грамада Парыжу разам з Старшынёю Рады БНР сп. І. Сурвіллай наведалі магілу Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка, які пахаваны на могільніку Пэр Ляшэз.



*Каля магілы М. Абрамчыка на могільніку Пэр Ляшэз (зьлева) Уладзімір Полупанаў, Івонка Сурвілла, спн. Палупанава, Міхась Наўмовіч, Ігар Лялькоў.*

лёсу ў чатырох эміграцыйных лягерох у Чэхіі, але, напрыклад, і сям'я бізнэсоўца, які ўжо больш не рызыкуе працаваць на беларускай зямлі. Вечарыну аздобіла сваім граньнем на цымбалах выпускніца Менскай Кансэрваторыі Аня Лікіна — яе сям'ю можна залічыць да эміграцыі талентаў.

Як старога знаёмага заля сустрэла барда Сяржука Сокалава-Воюша, асабліва ўсьцешаная дзьвюма цудоўнымі «копіямі», якія чыталі бацькаў верш. Сяржук адмыслова для вечарыны напісаў песьню «Сьвечкі» — гэта паэтычны заклік адзначаць 25 Сакавіка з запаленаю сьвечкаю ў вакне.

Па праўдзе, шмат хто сярод гэтай грамады пабачыўся ўпершыню толькі ў Празе. Таму прэм'ерай былі ня толькі сокалаўскія «Сьвечкі» — наш «усеэўрапейскі беларускі хор» зь першага разу, без рэпэтыцыі, засьпяваў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Як вядучая прызнаюся, больш за ўсё баялася за правал у гэтым месцы. Але выйшла на дзіва суладна й упэўнена. Можа таму, што сярод нас быў і Данчык?

25 сакавіка на Вацлаўскім пляцы, у самым цэнтры чэскай сталіцы, прайшоў пікет у падтрымку беларускай дэмакратыі й правоў чалавека на Беларусі. Прысутныя ставілі свае подпісы салідарнасьці пад «Хартыяй-97». У гэты-ж дзень адчыніўся й Беларускі цэнтар пры чэскай фундацыі «Чалавек у бядзе».

**Паводле Алены Ціхановіч, Радыё «Свабода»**

## ВУГОРШЧЫНА

**БУДАПЭШТ.** Сёлета ў Будапэшце сабралася болей беларусаў, чым у папярэднія гады (традыцыя адзначаць Сакавіковыя ўгодкі была запачаткаваная тут у 1995 годзе).

Гадавіна нашае незалежнасьці была ўспрынятая беларускімі студэнтамі, што навучаюцца ў Вугоршчыне на гранты ад Фонду Сораса, як высокі грамадзянскі абавязак далучэньня да беларускае нацыянальнае ідэі.

Яны, сёньняшнія дзеці Беларусі, пачуваюцца не бязроднымі ў вялікім сьвеце: нягледзячы на маладосьць, яны сталыя ў сваіх палітычных і патрыятычных поглядах, бо прайшлі на Беларусі, як яны кажуць, «фронтаўскую загартоўку» — так ці інакш кожнаму даводзілася браць удзел у дзейнасьці БНФ або нейкім чынам выяўляць сваю прыхільнасьць да яго ідэяў.

На сьвяточнай вечарыне 25 сакавіка таксама былі выкладчыкі й студэнты катэдры ўсходнеславянскае й балцкае філялёгіі Будапэскага Ўнівэрсытэту. Прысутныя з увагаю выслухалі спавешчаньне спадара Рыгора Жыткова пра разьвіцьцё беларускае нацыянальнае ідэі й увасабленьне яе ў аднаўленай нацыянальнай дзяржаўнасьці — Беларускай Народнай Рэспубліцы.

Затым з вуснаў як беларусаў, так і вугорцаў гучала беларуская патрыятычная клясыка: Багдановічава «Пагоня», Караткевічава «Беларуская песьня», «Запавет» і «Дзяды» Міколы Пракаповіча.

Як знак беларускае прысутнасьці ў бясконцым часе й сьвеце гарэла гэтым вечарам сьвечка й у будапэскім вакне, гучала наша песьня-гімн «Магутны Божа», лунала сяйво нашых адвечных думаў і мараў, каб жыла наша Маці-Краіна, Маці-Дзяржава Беларусь — вечна жыла!

**Валянціна Мароз**

## АЎСТРАЛІЯ

**ПЭРТ.** 80-я ўгодкі Акту 25 Сакавіка беларусы Заходняй Аўстраліі адзначалі ў нядзелю 22 сакавіка ў Беларускім Народным Доме ў Байсўотэры. Урачыстасьць распачалася адыграньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і вітаньнем удзельнікаў сьвяткаваньня старшынёй урачыстага сходу.

Прынагодныя вітаньні даслалі Старшыня Рады БНР І. Сурвілла, Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, Цэнтар «Беларуская Пэрспэктыва» (Менск), Беларускае Аб'еднаньне Паўдзённае Аўстраліі, Фэдэральная Рада Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, Згуртаваньне Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына», сп. М. Цыбульскі (Гомель). Даклад на тэму дня пaангельску зрабіў Старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі сп. Міхась Раецкі-малодшы, а па-беларуску — прадстаўнік вонкавых сувязяў Беларускага Аб'еднаньня Заходняй Аўстраліі (Б.А. у З.А.) сп. Міхась Раецкі-старэйшы. Абодва дакладчыкі былі вітаныя бурнымі воплескамі.

Затым адбыўся пачастунак, за падрыхтаваньне якога належыцца падзяка сяброўкам Б.А. у З.А. спн. М. Мароз ды Зосі й Марыльцы Ёлабам. У часе пачастунку быў праведзены збор ахвяраў на «Дар Сакавіка». **Р.М.**

## БЕЛАРУСЬ

ВІЦЕБСК. 22 сакавіка ўрачыстае шэсьце ў гонар Дня Волі прайшло ад чыгуначнага вакзалу праз цэнтар горад да помніка Ўладзімера Караткевіча, дзе адбыўся гадзінны мітынг.

Маніфэстанты несьлі патрэты выдатных дзеячоў беларускай гісторыі — Юрыя Радзівіла й Кастуся Каліноўскага. Лунaлі бел-чырвона-белыя штандары й сіні з залатымі зоркамі сьцяг Эўрапейскай Злучнасьці.

Дзякуем за дасланыя ў рэдакцыю віншаваньні з нагоды 80-х угодкаў абвешчаньня Акту 25 Сакавіка
**Беларускаму Кангрэсаваму Камітэту Амэрыкі, Згуртаваньню Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына», Беларускаму Фонду «Свабода й Дэмакратыя»**

тыдзень назад аддала пад гэтую тэму частку першай і другой палосаў. Натуральна, у гэтых публікацыях адсутнічае нават спроба якога-небудзь гістарычнага аналізу; увесь гістарызм іх аўтараў выяўляецца ў выкарыстаньні архаічнай, ужыванай яшчэ ў камуністычныя часы, лаянкі.

Другі напамінак, які дае нам БНР — гэта ўсьведамленьне апоры на ўласныя сілы. Я ня буду прыгадваць тыя адчайныя спробы, якія ў 1918 годзе кіраўнікі БНР рабілі, каб атрымаць дзейсную дапамогу ад урадаў іншых краінаў. Сёньня мы бачым, што, у цэлым заняўшы жорсткую пазыцыю да Лукашэнкі, Захад практычна ігнаруе дзеяньні Крамля ў справе інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі. І ўжо зусім незважанымі ня толькі ўрадавымі ўстановамі, але й праваабарончымі арганізацыямі застаюцца факты масавай дыскрымінацыі беларусаў па нацыянальнай прыкмеце, закрыцьцё беларускіх школаў. Зразумела, што клапаціцца пра гэта павінны мы, беларусы, — больш няма каму.

**Сяргей Навумчык**

## РЭДАКЦЫЙНАЯ НОТА

*Як відаць з пададзеных вышэй публікацыяў, Акт 25 Сакавіка адзначаўся ва ўсім сьвеце. Рэдакцыя газэты «Беларус» атрымала так шмат паведамленьняў пра сьвяткаваньні, што зьмясьціць увесь дасланы матар'ял, нажаль, не дазволіла абмежаваная газэтная плошча. Таму рэдакцыйная калегія, выказваючы шчырую падзяку аўтарам карэспандэнцыяў, перапрашае за змушанае скарачэньне дасланых тэкстаў.*

*Таксама з прычыны нястачы месца нам прыйшлося перанесьці на наступны, травеньскі, нумар ужо гатовыя публікацыі пад рубрыкамі «Пошта» й «Новыя кнігі», рэпартаж з выстаўкі ў Нью Джэрзі, а таксама нэкралёгі. Травеньскі нумар зьявіцца ў самы бліжэйшы час.*

Рэдактар газэты «Наша Ніва» Сяргей Дубавец зьвяртаецца да суродзічаў замежжа з просьбаю фінансава паспрыяць выданьню кнігі

### БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КРЫЖЫ

Бяз Вашае дапамогі выданьне кнігі будзе немагчымым!

Аўтар кнігі — **МІХАСЬ РАМАНЮК** (1944—1997), выдатны этнограф, прафэсар Беларускай Акадэміі Мастацтваў, стваральнік фундамэнтальнага альбому «Беларускае народнае мастацтва».

Кніга зьмяшчае больш за 150 аўтарскіх здымкаў і замалёвак. Аб'ём 100 старонак, фармат 24 х 30 см або 9,5 х 12 цаляў (inches).

Рэдактар кнігі — Сяргей Дубавец, мастацкі рэдактар — Дзяніс Раманюк, сын Міхася Раманюка.

**Банкаўскі рахунак:**
Beneficiary: Ramaniuk Dzianis. Beneficiary's account: 272070129 USD.
Beneficiary's Bank: Bank "SNORAS", Vilnius, Lithuania.
Acc. No. in intermediary bank: 890-0097-175
Intermediary Bank: THE BANK OF NEW YORK, 48 Wall Street, New York, N.Y. 10286, USA. SWIFT: IRTVUS3N

**Адрас для іменных чэкаў і пошты:**
Ramaniuk Dzianis, a/d 2566, Vilnius, 2009, Lithuania.

## РОСШУКІ

Вера, дачка Фэлікса, Ляшчэвіч шукае ў ЗША свайго роднага дзядзьку **Браніслава**, сына Язэпа (Восіпа), **Ляшчэвіча**, ягоную дачку й унукаў. Вера Ляшчэвіч паведамляе, што ўсе зьвесткі пра дзядзьку й ягоную сям'ю, а таксама адрасы згарэлі ў часе пажару на сялібе. Дзядзька Браніслаў Ляшчэвіч быў фармэрам, амэрыканцы клікалі яго Бэнам. Зьвесткі ў гэтай справе просім дасылаць на адрас газэты «Беларус».





*На здымках:*
*Дачка Б. Ляшчэвіча з мужам*
*Б. Ляшчэвіч з жонкай і ўнучкай*

Родзічы з Эстоніі шукаюць нашчадкаў **Вінцука Петручэні**, які нарадзіўся ў вёсцы Кракотка Слонімскага павету Гарадзенскай губэрні.

Перад Першай сусьветнай вайной разам са сваёй сястрой Зосяй ён паехаў праз Парагвай у Аўстралію.

У В. Петручэні ў Аўстраліі нарадзіліся дзеці — сын (у 1932 г.) і дачка (у 1935 г.).

Будзем вельмі ўдзячныя за любую інфармацыю, якую можна слаць на адрас:

**Мікола Юрэня**
Kiviõli
Pargi 5a – 25, EE3040
ESTONIA

Алесь Адамковіч з Наваполацку шукае зьвестак пра **Эдмунда Красоўскага**, бацькоў якога звалі Юры (Ежы) і Гэлена, братоў — Людвік і Мечыслаў. Нарадзіўся Э. Красоўскі ў 1917 ці 1918 г. у вёсцы Сінілы непадалёк ад Гэрманавічаў Дзісьненскага павету (зараз в. Зорка Шаркаўшчынскага раёну Віцебскай вобласьці). Недзе ў 1990 г. ён шукаў сваіх родзічаў праз Чырвоны Крыж, але пошукі не далі вынікаў.

Зьвесткі ў гэтай справе просім дасылаць на адрас:

**Алесь Адамковіч**
вул. Маладзёжная 49 б 1220-5
211440 г. Наваполацк
BELARUS

**СУРОДЗІЧЫ-БЕЛАРУСЫ!**

Нью Ёрскі Аддзел БАЗА
зьвяртаецца да вас з просьбаю
**падаваць у газэту «Беларус»**

### ЗЬВЕСТКІ АБ ПРАЦОЎНЫХ МЕСЦАХ.

Апошнім часам у ЗША, асабліва ў Нью Ёрк і навакольле, прыбывае шмат беларусаў, якія, ратуючыся ад рэжыму Лукашэнкі ды эканамічнае нястачы, змушаныя пакідаць Бацькаўшчыну. Самае складанае для новага эмігранта — знайсьці працу. Вашыя зьвесткі аб вакантных працоўных месцах, надрукаваныя ў нашай газэце, маглі-б істотна дапамагчы новапрыбылым беларусам уладкавацца ў новых умовах.

Зь ініцыятывы Галоўнае Ўправы БАЗА распачата праца над кнігаю, прысьвечанай

**гісторыі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.**

Выхад кнігі прымяркоўваецца да 50-х угодкаў БАЗА, якія будуць сьвяткавацца ў наступным годзе.

Каб кніга атрымалася інфарматыўнай і цікавай, аўтар зьвяртаецца да ўсіх суродзічаў, хто мае публікацыі, дакумэнты, здымкі, зьвязаныя з гісторыяй і цяперашняй дзейнасьцю БАЗА.

Просьба дасылаць матар'ялы (можна копіі) на адрас:

**Z. Sauka**
172 Mill Spring Rd.
Manhasset, NY 11030-3618
USA

## АХВЯРАВАНЬНІ

**На выдавецкі фонд газэты «Беларус»**
US$

| | |
|---|---|
| Lukjan Metal Products, Inc. | 300 |
| Ананім (Вільрык, Бэльгія) | 200 |
| В. Плескач | 100 |
| В. Тур | 60 |
| В. Махнач | 50 |
| В. і М. Багдан | 50 |
| М. Брылеўскі | 50 |
| Праф. Т. Бэрд | 50 |
| У. Мандзік | 50 |
| Г. Руднік | 50 |
| Н. Сіцько | 50 |
| П. Бурдзь | 40 |
| У. Гуцько | 40 |
| М. Кулагін | 40 |
| М. Такушэвіч | 40 |
| Б. Даніловіч | 30 |
| Я. Крэсла | 30 |
| Р. Сямёнава | 30 |
| М. В. | 30 |
| Л. Гутырчык | 30 |
| Л. Корчык | 30 |
| В. і Л. Цярпіцкі | 30 |
| Тамара Ст. | 30 |
| Я. Чорны | 30 |
| Я. Каханоўская | 25 |
| Т. Піліповіч | 20 |
| Я. Юхнавец | 10 |

**Сабрана на Сакавіковым Сьвяткаваньні ў Нью Брансўіку 29 сакавіка 1998 г.**

| | |
|---|---|
| В. Заморская | 100 |
| др У. Набагез | 100 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| Тамара Ст. | 50 |
| В. Кажан | 40 |
| С. і Н. Дудар | 35 |
| К. і М. Верабей | 30 |
| Т. Язерская | 30 |
| А. і Н. Сільвановіч | 30 |
| Л. Стаганевіч | 25 |
| І. Буран | 20 |
| А. Сёмуха | 20 |
| А. Кажан | 20 |
| В. Запруднік | 20 |
| А. Талянскі | 20 |
| А. Субота | 20 |
| З. і. В. Кіпель | 20 |
| Я. і Н. Запруднік | 20 |
| сп-ва Непейн | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| А. Шукелойць | 20 |
| А. Міцкевіч | 10 |
| а. В. Андрэюк | 10 |
| Л. Гутырчык | 10 |
| В. і С. Гладуны | 7 |
| Э. Рыжы | 5 |

***З Англіі***
*сабраў М. Сенько*
UK£

| | |
|---|---|
| Беларускі Дабрачынны Фонд у Лёндане, Англія | 150 |
| С. Будкевіч | 50 |
| П. Шыркоўскі | 40 |
| Л. Міхалюк | 30 |
| М. Швэдзюк | 30 |
| М. Баяроўскі | 25 |
| Ч. Кажаневіч | 25 |
| А. Ражанец | 25 |
| М. Сенько | 25 |
| А. Якубовіч | 20 |
| М. Віценчык | 10 |

***Даслана непасрэдна ў рэдакцыю***

| | |
|---|---|
| Я. Яськевіч | 5 |

**Аддзел БАЗА ў Кліўлендзе**
*(сабрала Вольга Стрэчын)*
US$

| | |
|---|---|
| К. Калоша | 100 |
| А. Стрэчын | 100 |
| О. Дубаневіч | 50 |
| А. Кабяка | 40 |
| М. Стрэчын | 40 |
| К. Стрэчын | 40 |
| В. Стрэчын | 40 |
| Дз. Беленькі | 30 |
| К. Валюкевіч | 30 |
| Я. Каваленка | 30 |
| Т. Кананчук | 30 |
| С. Карніловіч | 30 |
| К. Маталыцкі | 30 |
| С. Махахей | 30 |
| Я. Раковіч | 30 |
| М. Страпко | 30 |
| В. Стрэчын | 30 |
| Я. Ханенка | 30 |
| М. Шпэндзік | 30 |
| Я. Шымчык | 30 |
| В. Яцэвіч | 30 |
| А. Яраховіч | 30 |

**У памяць Міхася Тулейкі**

| | |
|---|---|
| П. Кулеш | 200 |
| др. У. Набагез | 50 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| А. Субота | 50 |
| Сям'я К. Муха | 50 |
| Я. Віціцкі | 50 |
| Я. Каханоўская | 25 |

**Замест кветак на магілу Надзі Мароз**

| | |
|---|---|
| Л. Бяленіс | 25 |
| К. Пануцэвіч | 25 |

**У памяць Язэпа (Джэфа) Касьцюкевіча**

| | |
|---|---|
| Ю. Касьцюкевіч | 50 |
| Л. Колін | 50 |

**У памяць др. Анатоля Бразоўскага**

| | |
|---|---|
| Марыя Д. Баін | 50 |

**На дзейнасьць БІНІМ**

| | |
|---|---|
| В і З. Кіпель | 300 |
| др. М. Смаршчок | 250 |
| З. Смаршчок (Бэльгія) | 200 |
| Л. і С. Мурог | 150 |
| М. і З. Касьцюк | 100 |
| А. Монід (Канада) | 100 |
| Б. Даніловіч | 100 |
| А. Мароз (Аўстралія) | 100 |
| І. Казак | 40 |
| В. Яцэвіч | 25 |
| К. Камякоў | 25 |
| В. Змрокаў | 25 |

**Для Галоўнай Управы БАЗА**

| | |
|---|---|
| Б. Даніловіч | 100 |

**На Фонд Памяці Натальлі Арсеньневай**
US$

| | |
|---|---|
| Беларускі Дабрачынны Фонд у Лёндане, Англія | 500 |
| К. Вініцкая | 200 |
| М. Латушкін | 30 |
| Э. Маркоўская | 20 |
| А. Каўка (Масква) | 15 |

Aus$

| | |
|---|---|
| В. і Р. Шайпакі | 300 |
| сп-ва Кукелі | 50 |
| Ш. Т. Лашук | 50 |
| У. Сідлярэвіч | 50 |
| Я. Барысевіч | 40 |
| А. Груша | 20 |
| А. Шнэк | 20 |
| І. Яшчэнка | 20 |

**На касэту В. Пархоменкі**

| | |
|---|---|
| сп-ва Літаровічы | 20 |